№ 7 (…) Аўторак 17-га Верасьня 1928 г. м. Вільня. Год II.



# Беларускі Радны

Пэрыядычная часопісь па самаўрадавым справам нашага краю

РЭДАКЦЫЯ і АДМІНІСТРАЦЫЯ: WILNO, Zawalna 6—5.

ПАДПІСНАЯ ЦАНА:
За 3 месяцы . . . . 2 зл.
1 нумар . . . . . . 50 гр.

АБВЕСТКІ ПА УМОВЕ

## Адбудова нашага Краю.

Адбудова Краю, пацярпеўшага ад вайны, бяз урадавае дапамогі ў шырокім маштабе зьяўляецца немагчымаю. Ведама, што, напрыклад, ува Францыі на адбудову зьнішчаных вайною правінцыяў пайшлі дзесяткі мільярдаў франкаў. Праўда ў нас гэтыя страты не дасягаюць гэткіх разьмераў, дзякуючы асабліваму характару Краю, але ў сваю чаргу і сродкі дзяржавы зусім іншыя, чым, напрыклад, ўва Францыі ці Бэльгіі, якія атрымліваюць ад Нямеччыны кантрыбуцыю на адбудову зьнішчаных вайною правінцыяў у відзе грошаў і будаўляных матэр'ялаў. Дзеля гэтага нельга абвінавачываць урад у тым, што гэтая акцыя вялася і вядзецца у павольным тэмпе.

Усё залежала ад агульнае гаспадарчае сытуацыі Дзяржавы. Але па меры палепшаньня і ўзмацненьня фінансавага становішча Дзяржавы, дзяржаўная акцыя адбудовы нашага Краю станавілася больш выразнаю. Праўда, шмат перашкаджалася яна яшчэ стыхійнымі бедствамі, як ураганы, град, паводкі, няўраджаі, пажары і г. д., якія гэтак сама выклікалі значныя выдаткі ўраду. Вось дзеля чаго адбудова нашага Краю ідзе павольным тэмпам.

Яшчэ не закончылася вайна, а Устаўадаўчы Сойм ў ліпні 1919 г. ухваліў закон (Д. Р. П. № 63 § 368), на падставе якога пацярпеўшае ад вайны насельніцтва мела права карыстацца дзяржаўнаю дапамогаю ў відзе беззваротных запамогаў на суму да 20,000 польскіх марак, ці будаўлянага матэр'ялу на паасобнае гаспадарства, якое без дзяржаўнае дапамогі ўласнымі сродкамі не магло адбудавацца.

Але з часам, па меры ўпадку валюты беззваротная дапамога ў гатоўцы аказалася нярэальнаю, дзеля чаго ўрад законам ад 21 студзеня 1921 г. (Dz. Pr. P. № 13 § 73) упаважніў дзяржаўныя органы адбудовы да ўдзяленьня пацярпеўшым дапамогі выключна ў будаўляных матэр'ялах.

Дзеля таго, што неабходныя на пакрыцьцё выдаткаў на гэтую акцыю фонды залежалі ад тых сумаў, якія вызначаліся на гэта ў агульна-дзяржаўным бюджэце, валютныя-ж варункі дзякуючы сталаму ўпадку валюты стала мяняліся, накрэсьлены плян акцыі адбудовы гэтак сама падлягаў частым зьменам і павінен быў быць дастасаваны да новых варункаў.

Першым крокам па шляху да унезалежненьня акцыі адбудовы ад бюджэту і паданьня валюты зьяўляецца закон ад 6 ліпня 1923 г. (Dz. U. R. P. № 87 § 636), уводзячы лясную даніну на мэты адбудовы, якая давала будаўляны матэр'ял. Аднак-жа практыка паказала, што і гэтыя законы не гварантавалі пасьпеху акцыі адбудовы дзякуючы беднасьці пацярпеўшага насельніцтва. Дзеля гэтага ў рэзультаце быў ухвалены і праведзены ў жыцьцё новы закон ад 6 траўня 1924 г. (Dz. U. R. P. № 49, § 492), на падставе якога пацярпеўшыя атрымлівалі ня толькі дапамогу ў натуры, але і грашавую ў разьмеры да 80—100 прац. запраўднай вартасьці адбудовы. Закон гэты ў корані зьмяняў папярэднюю сыстэму дапамогаў, уводзячы доўгатэрміновыя вельмі нізка апрацэнтаваныя пазычкі (10 гадоў па 1 прац. гадавому) і даючы адначасова магчымасьць карыстацца будаўляным матэр'ялам, які можна было атрымліваць на падставе ляснай даніны. Гэты закон аб адбудове дапушчае магчымасьць ануляваньня (umorzenia) выданай пацярпеўшаму пазычкі.

У зьвязку з гэтым быў выданы загад Міністэрства Публічных Работ і Скарбу № 3 ад 20 траўня 1927 г. (Dz. U! R. P. № 48 § 436) аб анулязаньні пазык, выданых пацярпеўшым на адбудову.

Грашовыя сродкі на адбудову чэрпаліся галоўным чынам з лясной даніны. Але гэтыя сродкі аказаліся недастатачнымі дзеля вялізарных зьнішчэньняў і лічбы неадбудаваных гаспадарак. З другога боку урад ня мог вызначыць значных грашовых сумаў на гэтую мэту з агульна-дзяржаўнага бюджэту. Урадавыя праэкты павысіць некаторыя падаткі, даходы з якіх ішлі-бы на пакрыцьцё крэдытаў на адбудову, былі ухілены Соймам.

Аднак-жа ў выніку шэрагу канфэрэнцыяў, якія адбыліся ў прэзыдыуме Рады Міністраў, быў выданы цэлы рад загадаў, маючых на мэце здабыцьцё патрэбных сродкаў, роўным чынам упрошчаньне і аблягчэньне фармальнасьцяў, зьвязаных з атрыманьнем пацярпеўшымі прадбачаных законам пазык ці матэр'ялу на адбудову. Асабліва заслугоўвае ўвагі загад аб выкарыстаньні будаўлянага матэр'ялу ня толькі з лясоў вызначаных для даніны (прыватнае маемасьці), але і з лясоў дзяржаўных. Далейшым загадам Міністэрства Скарбу быў адменены падатак ад статку ў усходніх гмінах, пацярпеўшым ад вайны. Гэтак, напр., у 1925 г. гэты падатак быў акрэсьлены на Віленскае ваяводзтва у суме 456,000 зл. Затым для таго, каб даць магчымасьць пацярпеўшым падвязьці будаўляны матэр'ял туды, дзе яго няма, быў адкрыты спэцыяльны крэдыт для Віленскага ваяводзтва ў суме 80,000 зл.

Агульная лічба зьнішчаных будынкаў Віленскага ваяводзтва паводле статыстыкі — 1919—20 г. дасягала 74,833. У гэтую лічбу галоўным чынам уваходзяць будынкі малапольных (да 15 гэкт. зямлі), беззямельных, арандатараў і публічныя, як школы, гміны і. г. д.

1 студзеня 1928 г. засталося яшчэ неадбудаваных 24,625 будынкаў. Гэтакім чынам адбудавана 67 проц. і пазастала неадбудаваных 33 проц. З гэтае лічбы неадбудаваных гаспадарак жыве яшчэ у зямлянках ці ў прымітыўных хатах 3,095 гаспадароў.

На адбудову выдана крэдытаў да 31.VII.27 году 3,132,500 зл. і у бягучым годзе да 1 жніўня 550,000

Выдана будаўлянага дзерава з лясной даніны (прыватных лясоў) — 68,410 куб. мэтраў і дзяржаўных лясоў — 318,185 куб. мэтр. на суму 2,500 зл.

Дзеля высокіх цэнаў на будаўляны матэр'ял і вычэрпаньня запасаў дзерава ў лясох робяцца спробы у кірунку патаненьня коштаў будовы і стасаваньня іншых матэр'ялаў. З гэтаю мэтаю выбудавана у найбольш пацярпеўшых гмінах 14 паказовых дамоў з гліны і хворасту, якія выданы для карыстаньня бяднейшым жыхаром. Адначасова вядзецца шырокая прапаганда у гэтым кірунку і арганізоўваюцца часта бясплатныя курсы агнеадпорнага гліпянага будаўніцтва. Прапаганда гэта прыносіць пазытыўныя плады, бо ў бягучым будаўляным сэзоне будуецца ў Віленскім ваяводзтве на тэрэне рожных паветаў больш 60 гэткіх дамоў пры помачы выданых пазык. Вартасьць будовы гэтакага дому для пацярпеўшага дасягае каля 1,000 злотых.

Значны удзел у адбудове Краю прыймаюць мястовыя і вясковыя самаўрады, як у форме загатоўкі будаўляных матэр'ялаў — цагельняў, бэтонярняў і. г. д.—гэтак і ў будоўлі самых будынкаў — школаў, гмінных гмахаў і. г. д. Але шмат яшчэ застаецца для выкананьня. Большасьць гмін да гэтае пары месьціцца ў прыватных гмахах, за якія плацяцца вялікія грошы. У першую чаргу яны павінны уласнымі сродкамі выбудаваць сабе гмінныя гмахі. Гэта значна зьменшыла-бы мешканёвы голад і ускорыла-б адбудову Краю.

# Барацьба з п'янствам і самаўрады.

Хто з нас ня ведае, якія страшэнныя спусташэньні робіць у нашым беларускім жыцьці наша „нацыянальная" гарэлка!?

Мы ня будзем тутака падрабязна разводзіць над шкоднасьцяй п'янства. Напомнім толькі нашаму грамадзянству, што навука — у асобах сваіх найбольш аўтарытэтных прадстаўнікаў — аднагалосна сцьвердзіла **абсалютную шкоднасьць алькаголю** для чалавека, навэт у найменшых дозах, дый ня толькі для яго фізычнай прыроды, але і асабліва для **духоўнай прыроды чалавека**. Алькаголь ня толькі руйнуе дый параджае паталягічна усе бяз вынятку органы нашага цела, ён атручвае, і руйнуе перадусім і асабліва наш мозг, галоўны цэнтральны орган, які кіруе жыцьцём, паступаньнем, працай усяго арганізму, усяго камплексу яго органаў. Такім чынам алькаголь **атручвае і руйнуе самы розум чалавека,** яго сьведамасьць, яснасьць яго пагляду на сьвет, на людзей, на сябе, руйнуе разуменьне і цьвярозую ацэнку палажэньня, у якім апынуўся чалавек; алькаголь руйнуе ня толькі гэты, як кажуць, „**крытычны розум**," ці практычны спрыт у чалавека, без якога няма для яго ніякага пасьпеху на жыцьцёвым шляху, ні добрых рэзультатаў яго працы, — алькаголь няменш руйнуюча дзее і на **маральную асобу чалавека**, на маральную сьведамасьць і адказнасьць, паніжае у ім пачуцьцё асабістага гонару грамадзкага абавязку, зьніштажае ў ім плянова і дарэшты усе вышэйшыя духовыя вартасьці, без якіх ня можа існаваць грамадзянства, нацыя, дзяржава!..

„П'янаму — мора па калена," кажа старое прыслоўе. Гэта значыць, што п'яны мае тую

бязглуздую, шалёную „адвагу,“ якая ня бачыць пагражаючай чалавеку небясьпекі, не разьбіраецца ў стварыўшымся навокал яго палажэньні, ня умее даць сабе рады у ім. Гэтым п‘яны „цар прыроды“ і „пэрла стварэньня“ чалавек робіцца ніжэйшым, дурнейшым ад найдрабнейшай жывёлінкі, якую прырода надзяліла амаль што неабмыльным інстыктам, ратуючым яе ў небясьпецы. П‘яны чалавек ня ўмее адрожніць друга ад недруга, раскрываючыся ўвесь з душой і кашалём перад заклятым ворагам, які робіць з п‘яным сваім „прыяцелем“ усё, што толькі захоча! І ў гэтым ён становіцца ніжэй і агідней тых жывёлінак, якія усе добра ведаюць, хто ім друг, а хто вораг у сьвеце!..

П'янага чалавека б'юць, а яму і ня больна і ня сорамна, дык яго прывыкаюць біць і цьвярозага... П‘яны, як мёртвы, ня мае, ня чуе сораму, дзеля таго, што ён запраўды быццам духам мёртвы, хаця целам яшчэ жывы...

Алькаголь забівае у чалавеку ахвоту да працы, робячы яго так'м шляхам вечным прыганятым, вечным нявольнікам, працуючым толькі „з-пад палкі“... Ня можа быць ніякага ня толькі дабрабыту, ніякага гаспадарчага ўздыму краю, калі яго насяленьне п‘е, прапівае свой час, свае запрацаваныя грошы, свой гаспадарчы розум, ахвоту і радасьць працы, сваю творчую Божую душу!.. Хто з нас ня ведае, колькі дзён прападае стала ў нашага вясковага гаспадара з прычыны п‘янства. Павёз які тавар у места на прадажу, прапіў тамака грошы, варочаецца дамоў, здаўшыся на розум свайго каня, бо-ж расчыніў у гарэлцы дарэшты свой уласны, і пасьля сьпіць цэлыя суткі ... Дзень, працы, а то і два прапалі бяз сьледу, і ніколі ужо ня вернецца страчаны працоўны час!.. Так сама — які сямейны, грамадзкі, ці царкоўны фэст — ніводны не абыходзіцца бяз п‘янства... Вялізарная маса грошаў, якіх „няма“ на папраўку хаты, на вопратку, на лепшую страву, на кніжкі для вучняў, шчэдра ня лічучы выкідаюцца на гарэлку, якая лічыцца ўжо ня бутэлькамі у нашых „ганаровых“ гаспадароў, але вёдрамі!..

За сколькі вёдраў „прапілі“ бацькі дачку на заручынах, сколькі вёдзер высербалі госьці на вясельлі, вось чым цэшыцца „гонар“ гаспадароў у нас на вёсцы, у нашай голай, убогай, саломай ня толькі крытай, але амаль што і не падпасанай вёсцы!!.

А колькі бойкаў спараджае праклятая гарэлка на гэтых вясковых „фэстах“, якія амаль не абавязкава канчаюцца на пастарунку, добра яшчэ калі ня ў вастрозе ці на катарзе за забойствы ці пакалечаньні братам брата...

Трэба, каб наш народ, які, трэба думаць, сьведама стаў на шлях адраджэньня і хоча ісьці па ім да перамогі сваіх чалавечых і нацыянальных ідэалаў, зразумеў, што ня бачыць яму гэтага адраджэньня, як сваіх вушэй, калі ён ня кіне гэтага агіднага звычаю „прапіваньня“ усяго свайго дабра, пачынаючы ад свайго часу і грошаў, канчаючы сваімі дачкамі і сваімі чалавечымі душамі!..

Хай ведае наш народ, што для безнадзейна п‘янага народу няма пашаны сярод народу, але ёсьць заўсёды адна пагарда! Няма волі, але астаецца адна вечная няволя! Няма такому народу ніякай долі, бо тая, што прыгатаваў для яго сам Бог, прапіта гэтым народам у карчме!

Амэрыка багацее з такой хуткасьцяй, працуе так выдатна, як ніводны народ у сьвеце!.. Амэрыка фінансава памагае, але і загадывае усяму сьвету! Амэрыка палітычна пачынае кіраваць усім сьветам. І пэўне-ж не апошняя прычына гэтага духоўнага фізычнага, гаспадарчага ўздыму Амэрыкі зьяўляецца **найбольшая, найвышэйшая, як дзе інш, цьвярозасьць яе народу!**

Гэта сцьвярджаюць усе статыстычныя працы амэрыканскіх вучоных дасьледчыкаў. Як ня дзіўна, так званы трактат Кэллога запрапанаваны Амэрыкай ўсяму сьвету, абвясьціў „міжнародавым праступленьнем“ усялякую вайну, якая усьцяж яшчэ лічыцца у „Старым Сьвеце“— дзе эўропэйскія ўрады усьцяж шыкуюцца да вайны, чымсьці „высокім і ганаровым“, таксама ў Амэрыцы абвешчаны выраб і прадажа сьпірту ўгалоўным праступленьнем у той час, калі нашы эропэйскія ўрады усьцяж яшчэ самі „дзяржаўнамі манаполямі“ атручваюць свае народы гарэлкай!..

У Польшчы, нажаль, так сама, як шмат дзе інш, існуе дзяржаўная сьпіртавая манаполія. Дзяржаўная ўлада кіруецца тутака думкай, што калі народ п‘е, дык хай прынамсі п‘е „добрую гарэлку“, але ня робіць сам значна горшай і шкаднейшай „самагонкі“... Адначасна ўлада кіруецца скарбовым інтарэсам, маючы з манаполю на гарэлку вялізарныя даходы. Урад ня мае ані „духу“, каб адмовіць ад гэтых „зыскаў для скарбу“ коштам атручываньня народу, ані сілы, каб забараніць народу піць... Але ўрад павінен прынамсі не перашкаджаць самому народу, яго арганізаванаму грамадзянству самастойна весьці барацьбу з п‘янствам, павінен памагаць яму нават у яго высілках.

Працьвярожаньне народу—гэта першы крок да яго гаспадарчага і усякага далейшага адраджэньня. Гэтая думка павінна стаць лёзунгам нашай моладзі, на якую родны край пакладае такія вялізарныя надзеі, калі ўжо нашыя бацькі ня могуць даць сабе рады з сваімі сьмяротнымі вадамі! Далейшае п‘янства будзе каштаваць у новых ствараючыхся навакол нас цяжкіх варунках канкурэнцыі і „барацьбы за зямлю“ ня толькі заняпадам нашага народу, але і канчальным, яго выраджэньнем! Выраджэньне замест адраджэньня, — вось што нясе з сабой нашаму народу панyючая дагэтуль непадзельна у нашым Краі „нацыянальная наша **гарэлка**“!..

Добры прыклад дае нам у гэтым працьвярожаньні народу багатая, працавітая, шчасьлівая Амэрыка. У Амэрыцы **законам забаро-**

**нена усялякая прадажа гарэлкі,** дый усялякіх іншых моцных алькагольных трункаў. У Амэрыцы вось ужо ад самага канца вайны трымае уладу так званая „сухая" партыя „рэспубліканская", якая адным з чаловых пунктаў сваей праграмы ставіць гэтую забарону прадажу спіртавых трункаў у краі.

І вось мы бачым, што Амэрыка **пабівае увесь сьвет на ўсіх галінах працы!** Амэрыка паказала на апошнім сусьветным спартовым конкурсе у Амстэрдаме, што амэрыканец прадстаўляе найвышэйшы фізычны тып чалавека, бо-ж Амэрыка пабіла усе іншыя народы, якія прыслалі на Алімпійскія выперадкі ў Амстэрдаме сваіх найлепшых спартоўцаў: бягунак, плаўцоў, стральцоў, яздцоў на кані, барцоў, грабцоў і. г. д!...

Мы памятаем, як у царскай Расеі перад яе сумным канцом дзяржава трымалася на так званых „п'яных бюджэтах" п'янага народу. Манаполія давала каля паловы дзяржаўных даходаў. І ўсялякая запраўдная барацьба з боку грамадзянства з п'янствам была забаронена. Ведамы ўсім тыя расправы, якія рабіліся у Сібіры і у Расеі з тымі вясковымі гмінамі, якія асьмеліваліся выносіць пастановы аб зачыненьні ў сваіх вёсках манапольных лавак... Вынікі „п'яных падставаў" дзяржаўнага і народнага жыцьця Расеі—у нас перад вачыма.

У Польшчы пры існаваньні віннай манаполі аднак-жа няма забароны ані перашкодаў для грамадзкай барацьбы з п'янствам. Закон 1921 г. і практыка адміністрацыі дазваляе нашым самаўрадам на мясцох вясьці ўсялякага роду пляновую барацьбу з п'янствам да поўнай забароны на сваей тарыторыі прадажы сьпіртавых трункаў. Гэтым „ алькагольным законам" 1921 г. нашы самаўрады робяцца адказнымі за далейшае атручываньне алькаголем нашага народу!.. Хай-жа яны ведаюць гэта і паступаюць так, як ім падскажуць іхняе рэлігійнае сумленьне, іх грамадзкая мараль, іх нацыянальная сьведамасьць, іх адказанасьць перад народам і гісторыяй!..

Трэба нашым самаўрадам ведаць і аб тым, што прыклад у гэтым напрамку дадзены ужо нядаўна нам польскімі самаўрадамі. Як кажа толькі што апублікаваная Міністэрствам Здароўя статыстыка, **у 239 гмінах у Польшчы пастаўлена было** на галасаваньне прапазыцыя аб поўнай забароне прадажы сьпіртавых трункаў на іх абшарах. І вось **у 195 гмінах насяленьне высказалася за такую забарону, прычым у 166 гмінах пастанова ужо цалком зьдзейсьнена на практыцы!**

Газэты, нажаль, не падалі, якія гэтыя гміны. Але можна з гары сказаць, што напэўна сярод іх пакуль што няма - к нашаму сораму — ані воднай беларускай!..

Мы з усіх нашых сілаў заклікаем наш народ, наша грамадзянства, нашыя самаўрады — пайсьці сьледам за гэтымі перадавымі польскімі гмінамі і распачаць шляхотную працу пляновай барацьбы з п'янствам, ня спыняючыся перад поўнай забаронай прадажы сьпірту на сваіх абшарах.

Трэба памятаць і тое, што дзяржава вечнога ня страціць на тым, што з яе „манапольк" ня будзе купляць на атруту сабе вясковы жыхар. Сьпірт можа быць выкарыстаны інакш для рожнага роду тэхнічна—прамысловых патрэбаў. Возьмем цікаўныя, але сумныя для нас лічбы з міжнароднай статыстыкі: — у прамысловай Нямеччыны з ўсей масы выробленага у краі сьпірту 44% ідзе на прамысловыя мэты, а толькі 56%—выпіваецца. У—ва Францыі яшчэ больш утылізуецца сьпірту карысна: на тэхнічныя мэты ідзе 51%, ці ўжо больш як палова! **У Польшчы нажаль з вялізарнай масы выробленага алькаголю толькі 7 проц. ідзе на тэхнічныя мэты, а 93 проц. ідзе ў горла насяленьню, на яго атруту!..**

Такім чынам забарона прадажы гарэлкі гмінамі з усялякага боку ня толькі ня шкодна, але, наадварот, толькі карысна. А гэтым азначаецца ужо выразна і бясспрэчна шлях паступаньня для нашых самаўрадаў, для нашага сьведамага грамадзянства. Далоў-жа гарэлку з нашага жыцьця!

# Тутэйшая хроніка.

**— Беларускія выцечкі на Гадаўлянай выстаўцы ў Вільны.** 7 і 8 верасьня прыбылі беларускія выцечкі на адведзіны Паўночнага Кірмашу і Выстаўкі ў Вільні з паветаў Сьвянцянскага, Лідзкага, Валожынскага, Маладэчанскага і Вялейскага.

У большасьці прыехаўшыя былі сябры Т-ва акружнае рады „Прасьветы" на Віленшчыну, Рольных Колак і Гмінныя радныя. З Маладэчанскай выцечкай быў і нававыбраны войт Палачанскае Гміны Чарняўскі — сябра аддзелу „Прасьветы" у Маладэчне.

Усе, хто ня меў дзе затрымацца, знайшлі гасьцінnасьць у рэдакцыях „Грамадзяніна" і „Беларускага Раднага", дзе атрымалі бясплатна начлег, гарбату і абеды.

У гэтыя дні на Выстаўцы акурат быў найвялікшы рух і ўсе прыехаўшыя выехалі дамоў з моцным ўражаньнем. Выцечка з Маладэчанскага і Вялейскага павету мела вялікае жаданьне прывітаць Віленскага Ваяводу і падзякаваць яму за арганізацыю Выстаўкі і за тое, што, дзякуючы адпаведным распараджэньням, была дадзена магчымасьць адведаць Выстаўку і жыхаром вёсак, але, нажаль, у гэты час п. Ваяводы на Выстаўцы ня было.

**— Рэха Паўночнага Кірмашу і Выстаўкі ў Вільні.** Ад 18 жніўня да 9 верасьня ад-

ведала Выстаўку каля 200.000 асобаў. Кірмаш зачыніўся 9 верасьня, а Рэгіёнальная Выстаўка яшчэ асталася на некаторы час. Уваход 40 гр., а для моладзі і вайсковых 20 гр.

З беларусаў на Выстаўцы атрымалі пахвальныя лісты: Язэп Нелепка за апарат ўласнага вынаходу, які, будучы прытасаваным да лодкі, ці карабля, дае магчымасьць падчас хваль захоўваць раўнавагу.

Язэп Нелепка ў галіне вынаходаў — самавучка. Вынаходамі займаецца даўно. У руху беларускім вядомы, як пісьменьнік пад псэўданімам Старога Піліпа.

Некаторы час працаваў пры урадзе Ластоўскага. У сучасны момэнт працуе ў Вільні. Другі пахвальны ліст атрымаў Язэп Тулейка— за вулей для пчол.

— **Акружная Ральнічая Выстаўка у Нясьвіжы.** Нясьвіж шыкуецца да адкрыцьця Ральнічае Выстаўкі Наваградзкага Ваяводзтва, якая адбудзецца ў днях 22, 23 і 24 верасьня Для месца Выстаўкі кн. Радзівіл ахвяраваў частку свайго парку.

— **Аб Т-ве Беларускай Школы і Віленскай Беларускай Гімназіі.** Галоўная Управа Т-ва Белар. Школы падалася ў адстаўку, выбраўшы з сяброў яе — А. Трэпку, Я. Шнаркевіча і К. Крука у арганізацыйную Камісію дзеля склікання агульнага зьезду Т-ва для перавыбараў Гал. Управы, а гэтак сама ім-жа даручана клапаціцца ў ваяводзкіх ўладаў аб скасаваньні прыпыненай дзейнасьці Т-ва.

Канцэсія на Віл. Бел. Гімназію ад Т-ва Бел. Школы перайшла да нававыбранага Бацькаўскага Камітэту Гімназіі, у склад якога ўвайшлі гр. гр. Р. Астроўскі М. Кэпель, сьв. Коўш і іншыя.

Вучыцялёў гімназіі, якіх Бацькаўскі Камітэт прадставіў, Куратар зацьвердзіў, апрача гр. гр. Стэцкевіча і Паўловіча. Праца у Гімназіі ўжо распачалася. Новапаступіўшых вучняў ёсьць больш 70.

Дырэктарам Гімназіі вызначаны гр. Трэпка, інспэктарам—Р. Астроўскі.

— **Закрыцьцё Беларускай Гімназіі ў Радашкавічах.** Па загаду Маладэчанскага Стараства закрыта Беларуская гімназія ў Радашкавічах, якая утрымлівалася Т-вам Бел. Школы. У зьвязку з гэтым Бацькаўскі Камітэт пазванай Гімназіі зьвярнуўся да ўладаў з просьбаю аб адмене гэтага загаду. Трэба спадзявацца, што ўлады прыхіляцца да гэтае просьбы, як гэта мела месца і ў Віленскай Бел. Гімназіі.

— **Зьезд прадстаўнікоў ахвотнічай стражы.** У мінуўшую нядзелю адбыўся ў Вільні зьезд прадстаўнікоў ахвотнічай пажарнай стражы Віленскага ваяводзтва. На зьезьдзе кіраўнік агульнага Самаўрадавага аддзелу п. Віктар Чарноўскі прачытаў адчыт на тэму „Задачы, якія ставяць улады пажарным камандам на тэрэне Віленскага ваяводзтва“

— **Маемасьць м. Вільні.** Маемасьць м. Вільні складае 73,5 мільёнаў зл. Даўгі-ж места дасягаюць 23,5 міл. зл., з якіх галоўную частку складае даваенная англійская пазычка у суме 19 міл. зл. Цяперашні магістрат робіць стараньні, каб на падставе Вэрсальскага трактату скасаваць гэтую пазычку.

Новы Магістрат зрабіў пазычку у Банку Краёвага Гаспадарства на суму 1,650,000 зл., якія поўнасьцю выдаткаваў на адбудову. Належыць адцяміць, што ацэнка маемасьці магістрату м. Вільні ня поўная і дасягае большае сумы. Даўгі-ж зьменшацца да 7 мільёнаў зл. У жніўні мінулага году Магістрат, прыступаючы да ўрадаваньня, прыняў у Касе 73.211 зл., а 1 жніўня г. г. у касе было 580,000 зл.

# Самаўрадавая хроніка.

— **Дзеяльнасьць аддзелу грамадзкае апекі Віленскага Магістрату.** У 1924 г. бюджэт аддзелу грамадзкае апекі Віленскага магістрату складаў 169,298 зл., з якіх на субсыдыі дабрачынных інстытуцыяў выдана 116,000 зл., на прытулкі для старцаў — 41,806 зл., на лякарскую помач для бедных — 1,850 зл. і на выдаткі безработным — 9,644 зл. Бюджэт грамадзкае апекі складаў 3,2 проц. агульнага бюджэту места.

У 1927 г. бюджэт аддзелу грамадзкае апекі дасягнуў 1,076,355 зл., з якіх субсыдыяў на дабрачынныя інстытуцыі выдана 478,970 зл., апека над маткаю і дзяцьмі — 51,075 зл., прытулкі для старцаў — 80,460 зл., бясплатныя абеды — 282,400 зл., даразныя дапамогі — 100,020 зл., лякарская дапамога бедным — 75,420 зл., і начлежны дом — 8,000 зл. Бюджэт аддзелу публічнае апекі складаў 10 проц. агульнага бюджэту места.

— **Камунальны падатак ад вырабу і продажы напіткаў** у Вільні застаецца на настуны год у папярэдняй вышыні: 100 проц. ад патэнтаў на выраб напіткаў і 200 проц. ад патэнтаў на прадажу. Толькі піврарні будуць плаціць 100 проц.

— **Падаткі.** Скарбовыя ўлады выдалі загад аб спагоне чарговай раты падатку ад маемасьці. У гэтым загадзе гаворыцца, што паводле зьместу закону падатак гэты павінен быў быць поўнасьцю выплачаны да канца 1926 г., аднак-жа, з увагі на цяжкія эканамічныя варункі ў 1925-26 г. Міністэрства Скарбу вызначыла для спагону толькі пэўную частку, дзякуючы чаму засталася яшчэ неспагнаных: з I групы (ральніцтва) 378,700,000 зл., II групы (прамысловасьць і гандаль)— 174,650,000 зл, III гр. (мястовыя нярухомасьці)— 54,900,000 зл.

Працэнтовыя адносіны выплачанага падатку ад маемасьці да кантынгэнту паасобных

групаў наступныя: I гр.—25,5 проц, II - 57,5проц і III гр. — 56,3 проц. Дзеля гэтага скарбовыя ўлады, каб ураўняць падатковы цiжар, зрабiлі загад аб частковым спагоне наступным спосабам: 1) для платнікаў I гр. кантынгэнтавай ад 5 стопня, г. ё. вышэй 10,000 зл., вызначаюцца дадатковыя раты падатку у разьмеры 1 проц. ад вартасьці маемасьці, прынятай на падставе ацэнкі для падатку. Для II і III гр. ад 5 стопня вышэй — 0,6проц. ўсей вартасьці. Рата гэта павінна быць выплачана да 10 сьнежня.

**— Камунальны падатак ад прамысловасьці і гандлю ў Вільні** на 1929-30 г. ухвалены у папярэдняй максымальнай норме, г. ё. 25 проц. ад падатку прамыслова-гандлёвага і 30 проц. ад рэгістрацыйных карт.

**— Загад у справе злачынстваў на публічных шляхох.** Міністар Унутраных Справаў выдаў загад ад 31 ліпня № 140 наступнага зьместу:

Заўважана, што ад пэўнага часу павялічваюцца выпадкі праступных злачынстваў проці самаходаў, праяджаючых на публічных дарогах. У самаходы гэтыя кідаюць каменьні, дарогі пасыпаюцца цьвякамі, ці шклом, робяцца загародкі з каменьняў і г. д. Асабліва часта здараюцца выпадкі умыснага запруджаньня дарогі коннымі падводамі.

Дзеля таго, што гэтыя злачынствы па меры разьвіцьця самаходавага руху зьяўляюцца вялікаю небясьпекаю і, апрача гэтага, вырабляюць сярод іностранцаў ад'емную апінію аб парадках у Польскай Дзяржаве, прапануецца п. п. Ваяводам (п. Урадавым Камісарам) энэргічна змагацца з гэтым і выдаць адпаведныя загады падуладным сабе органам.

Прыпамінаю пры гэтым цыркуляр № 93 ад 18 верасьня 1923 г. і зьвяртаю асаблівую увагу на яго апошні артыкул, у якім гаворыцца аб адказнасьці бацькоў за недарослых і салідарнай адказнасьці вёсак і мястэчак за страты, прычыненыя на публічных дарогах нявыкрытымі злачынцамі.

**— Барацьба з пажарамі на вёсках.** Дзеля частых выпадкаў пажараў на вёсках Міністэрства Унутраных Справаў выдала загад, каб у бюджэтах вясковых гмін вызначаліся спэцыяльныя сумы на куплю пажарных насосаў, бочак, драбін, пажарных прыладаў і арганізацыю пажарнай стражы. Адначасова даручаецца гмінам уважна сачыць за станам комінаў, якія часта бываюць прычынаю пажараў.

**— Звальненьне ад стэмплёвай аплаты дазволаў на набыцьцё аружжа.** У зьвязку з запытаньнем паасобных Ваяводзкіх Урадаў Міністэрства Унутраных Справаў у паразуменьні з Міністэрствам Скарбу высьвятляе цыркулярам ад 6 VI за № 95, што дазволы на набыцьцё аружжа, выданыя на падставе цыркуляру Міністэрства Унутр. Справаў № 132 ад 30 лістападу 1921., не падлягаюць стэмплёвай аплаце, а паведамляецца толькі, што адпаведная улада пасьля выкананьня пэўных варункаў выдае афіцыяльнае пасьведчаньне, падлягаючае стэмплёвай аплаце.

**— Палёгкавыя пазычкі P.Z.U.W. для самаўрадаў.** Ад 1 студзеня да 1 чэрвеня г.г. „Powszechny Zakład Ubezpieczeń Wzajemnych" выдаў самаўрадам на вытворчасьць і склады будаўляных агнеадпорных матэр'ялаў 47 палёгкавых пазычак на суму 1,074,000 зл., а паасобным пагарэльцам на агнеадпорную адбудову 1,385 пазычак на суму 1,585,590 зл.

**— 166 цьвярозых гмінаў у Польшчы.** Дэпартамэнт службы здароўя пры Міністэрстве Унутраных Справаў зрабіў статыстыку прагібіцьнага (цьвярозага) руху. Паводле гэтых даных, на падставе закону аб алькаголю ад 1920 г. адбылося галасаваньне у 239 гмінах. У 195 гмінах большасьць насельніцтва выказалася за забарону прадажы алькаголю, прычым у 166 гмінах гэтая забарона зрэалізавана.

Пара і нам парупіцца аб гэтай справе. Каму ня ведама, колькі няшчасьця прыносе гарэлка. Нікога яна да дабра не даводзе. І, як бачым, ужо знайшлося 195 гмінаў, якія парашылі з гэтым чортавым зельлем. Нам застаецца толькі ўзяць з іх прыклад.

**— Зьезд пажарнай стражы Лідзкага павету.** 13 і 14 кастрычніка адбудзецца зьезд пажарных камандаў Лідзкага павету з сусьцігамі і раздачаю нагародаў і дыплёмаў. Для гэтага дружыны будуць падзелены на 2 групы: стражы маламестачковыя і вясковыя. Да першае групы залічаны стражы: Ліда места, Ліда каляёвая, стража 77 палку, 11 лятнічага палку, Шкляной Гуты Нёман, Эйшышкі, Іўя, Васілішкі, Жалудак, Радунь і Вэрэноў.

Да другой групы — Шчучын, Бэрдаўка, Беняконі, Геранёны, Беліца, Ружанка, Орля, Астрына, Ліпнішкі і Скрыбоўцы.

**— Закладка скатабойні ў Нова—Вялейцы.** У сераду 12 жніўня адбылася у Нова—Вялейцы закладка местовай скатабойні і адкрыцьцё чытэльні пры Магістраце.

**— З Глыбоцкае Гміны.** Ад пачатку ліпня г. г. узмацняецца дзеяльнасьць Павятовага Самаўраду. Апрача фармальнае працы пры адбудове дарогаў і мастоў, роўным чынам шашы Зябкі — Празарокі — Язьно, у апошні час зьвернута была увага на гаспадарчае жыцьцё павету. З мэтаю рацыянальнага выкарыстаньня багацьця павету, якім зяўляецца льняное, 15 ліпня у салі Сойміку адбылося арганізацыйнае сабраньне расплодчікаў льну, скліканае павятовым „Związkiem Kółek i Organizacyji Rolnych", на якім было пастаноўлена заснаваць Дзісьненскі Павятовы Хаўрус разводу доўгавалакністага льну.

Наагул трэба падкрэсьліць, што пытаньне аб разводзе льну на тэрэне павету выклікае ўзрастаючае зацікаўленьне сярод земляробаў павету, доказам чаго можа служыць паўстаўшы нядаўна льняны каапэратыў ў Празароках, які пасьля атрыманьня дазволу ўжо прыступіў да будовы агнеадпорных будынкаў.

У першыя дні ліпня адбыўся ў 7 пунктах павету паказ коняў і статку. На паказе коняў і статку ў Глыбокім было прыведзена коняў каля 150 і статку каля 300 галоў, а ў Парафіянаве — 175 галоў. Выстаўку народнае вытворчасьці ў Глыбокім 16 ліпня адведала каля 3,500 асобаў. Было дастаўлена 975 экспонатаў і выдана 86 нагародаў на суму 1000 зл.

У сярэдзіне ліпня адбыліся 10-дзённыя курсы агнеадпорнага будаўніцтва, арганізаваныя Павятовым Соймікам пры удзеле Страховага Т-ва і акружнага Земскага Ураду. Курсы праслухалі 28 асобаў.

Наагул самаўрад зьвяртае значную ўвагу на гаспадарчыя справы і дабрабыт жыхароў павету. Гадавы бюджэт дасягае 1,5 мільёна зл.

**— З Гарадокскае Гміны.** Гарадокская гміна Маладэчанскага павету вядзе працу энэргічна: большасьць дарог папраўлена, адбудавалі вялікі рынак, заложана бэтанярня і робяцца стараньні аб адкрыцьці малочнага каапэратыву.

**— Разьвязаньне Гміннае Рады.** Пастановаю Наваградзкага Ваяводы разьвязана Гмінная рада ў Гольшанах, Ашмянскага павету.

**— Новы войт Палачанскае гміны.** Войт Палачанскае гміны Мацей Пятровіч — вядомы са сваіх галосных выступленьняў спачатку па бутафорным далучэньні да арганізацыяў Паўлюкевіча са сваімі папяровымі „1200“ сябрамі „вызваленьня“, а пасьля па выхадзе з Паўлюкевічавых арганізацыяў — нарэшце застаўся звольненым. На ягонае мейсца 16 жніўня выбралі 8 галасамі проці 2 гр. Міхася Чарняўскага—сябру Маладэчанскага аддзелу акружнае Рады Т-ва „Прасьветы“, якому мы са свайго боку жадаем пасьпеху на становішчы войта.

**— Сьвянцянскі Соймік на W. F. і P. W.** Сьвянцянскі Соймік на апошнім сваім паседжаньні ўхваліў дадатковую суму у 1,500 зл. на акцыю фізычнага выхаваньня і ваеннага прыстасаваньня.

# Карэспандэнцыі.

## Гісторыя пераходу вёскі Кухчыцы на хутары.

Вёска Кухчыцы ў 1923 годзе з невядомай прычыны, можна сказаць, згарэла да тла: з 130 дамоў засталося 12 Земскі Камісар Нясьвіскага павету п. Кучынскі, карыстаючы гэтым мамэнтам, дадаў сялянам зямлі з маёнтку Кухчыцы з тэй мэтай, каб разьбіць потым на хутары, (якраз праводзілася урадовая камасацыя). Зямлі дадавалі да 4 дзес.

Прыехаўшы ў вёску, Земскі Камісар сабраў сход і запытаўся сялян, ці жадаюць выходзіць на хутары, абяцаючы амаль што ня „рай“ Сяляне, напужаныя гэтым выпадкам і чуючы салодкія абяцанкі п. Камісара, згадзіліся, але ня ўсе. А п. Камісару гэтага і трэба было. Зрабілі пратакол, хто хацеў — расьпісаўся і здавалася, што ужо ўсё было гатова. Але п. Камісар забраў ўсе паперы і паехаў. Сяляне чакалі, чакалі хутароў, дый годзе сказалі. Пачалі самі будавацца, збываючы апошнюю карову ці каня, бо-ж страхоўкі не атрымалі а калі хто і атрымаў, дык нават на фунт селядцоў ня было. Прыходзілася будавацца за свае сродкі.

Прайшла восень, прайшла і зіма, а хутароў як няма, дык няма... Аж нейк вясною раптам прыяжджае землямер. Сяляне ў крык, у голас: „ня хочам“, і пачалася валынка. Зараз напісалі ў „Okręgowy Urząd Ziemski“ у Горадні, нічога не памагло. Беларускі Пасольскі Клюб зрабіў інтэрпэляцыю, і гэтак сама нічога не памагло. Тады справу скіравалі ў суд, два разы езьдзілі ў Варшаву на суд і гэтак сама не памагло. Нарэшце рашылі змагацца самі. Барацьбу вялі пераважна бабы і дзеці. Бабы сварацца з землямерам, дзеці раскідаюць капцы. З сялян на работу ніхто не пайшоў, прыходзілася наймаць работнікаў з іншай вёскі, але сяляне, як убачылі, што прыйшлі работнікі з іншай вёскі, дык сабраліся ўсе сялом і старыя і маладыя, каб бараніць сваіх палосаў. Бабы адабралі ад работнікаў лапаткі. Тут зараз паліцыя. Пачалі разганяць, а некаторыя з сялян на'т папалі да п. пракурора.

Гэткім чынам нашыя сяляне кончылі сваю барацьбу. Землямер вёў сваю работу далей. П. Камісар выбраў сабе камісію, якая пераважна была зложана з абшарнікаў і пачалі цаніць і разьбіваць зямлю на клясы. Сяляне, убачыўшы, што справа стаіць дрэнна і іх ніхто ня слухае, прыступілі да працы, кажучы: слухайма і рабем ўсё, што будуць казаць, а як прыйдзецца цягнуць лёсы, дык мы тагды ня згодзімся і прапала ўся іх работа. Пацанілі зямлю, разьбілі на клясы і на гэтым скончылася.

Усе выехалі, хто ў Вільню, хто да Нясьвіжа, астаўся адзін землямер, які прасядзеў ўсю зіму і нічога не зрабіў.

Прыходзіць вясна 1928 году. Прыяжджае п. Камісар зноў, ўжо лёсаваць. Сабраліся сяляне. Ізноў пачалі тлумачыць сваё, што ня хочуць цягнуць нумаркоў.

З пачатку цягнулі тыя, якія жадалі хутароў, а як прыйшлося да тых, што ня хочуць, дык ані ў зуб. Тагды п. Камісар пачаў перабіраць лінейкі, выклікаючы: „Хто хоча сесьці на гэту лінейку? ніхто? Пойдзем далей“. Але, як дайшлі да лінейкі, дзе поплаў быў разрэзаны на палову, так што адна палавіна адходзіла к полю, а другая—зямля прызнана да другой клясы, дык адзін з сялян, Пракоп Кулік, маючы 18 дзесяцін, першы крыкнуў „я хачу“ Тут-то і пашла патасоўка. Сяляне, бачычы, што

প্রакоп Кулік, маючы 18 дз. хоча ўзяць ізноў добрай і таннай зямлі, спахваціліся, але позна. Пачалі цягнуць лёсы, праігрываючы лепшую зямлю. Пацярпела на гэтым пераважна сялянства бяднейшае, аддаючы лепшую зямлю багатшым. Пацягнулі нумаркі, і цяпер далі сабе спакой. Чакаюць як найхутчэйшага канца, каб ужо сеяць жыта на хутарох.

Дык вось, за 4 гады барацьбы сяляне здаліся і, зразумеўшы нарэшце ўсе выгады, якія толькі можна мець на хутары, сяньня дружна ідзе работа. Колькі было сваркі, колькі няпрыемнасьці паміж тых селян, якія хацелі і якія не хацелі! Але ўжо усё кончылася, асталося толькі пажадаць паМысНай працы на новых гаспадарках.

*Нясьвіжанін.*

Кухчыцы. 2-IX 28.

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Дапамога чалавека пры ўздуцьці каровы.

Часьцей карову ўздувае летам, калі яна наесца сытага і сакавітага корму, як напрыклад — сьвежай атавы канюшыны. Але бываюць выпадкі, што карову ўздувае і пасьля сухога корму зімой, калі яе,сытна наеўшуюся, зараз-жа напаіць. Калі на пашы ляжыць іней, дык гэта таксама часта можа выклікаць уздуцьце жывёлы, а ў цельнай каровы нават выкідыш.

Каб запабягчы тут гэтым няшчасьцям, трэба асьцерагацца выганяць скот на траву, пакрытую рана інеем ці марозам, а ў гэты час даць карове ў хляве сухога корму, хаця-бы саломы, бо вядома, што карову часьцей уздувае, калі яна галодная дападзе да сытага ці папсаванага корму.

Уздуцьце бывае ад таго, што ў жываце і кішках жывёлы зьбіраецца лішка корму, які жывёла не спраўляеццаператравіць, ён бродзіць, выклікаючы газы, якія расьпіраюць кішкі і жывот. Прыкметы гэтай хваробы вядомы кожнаму гаспадару. Карова робіцца неспакойнай, вочы набягаюць крывёй; спачатку яна сапе часта, а потым усё вальней і вальней і ў канцы зусім перастае сапці і дыхаць — наступае сьмерць. Кроў прылівае да галавы, або лопае трубух. У гэты час трэба пасьпяшыць з помачай, бо запазьніцца на некалькі мінут—гэта можа пацягнуць за сабой страту жывёлы. Характарнай вонкавай адзнакай гэтае хваробы бывае павялічэньне левай пахвіны, якая ад ветраў робіцца роўнай з клубамі, або і вышэй іх.

Ад уздуцьця ўжываюць розныя лекі, як такія, што зьвязваюць у жываце газы, так і тыя, што выклікаюць адрыжку і гоняць ветры праз горла вон. Да першых можна залічыць паленую вапну, мыльную ваду, а найлепш нашатырны сьпірт. Ужываць гэтыя лякарствы трэба хутка.

Лякарствы, што гоняць ветры праз горла: тэрпэнтына, кмін, кроп, румянкі і іншыя.

Нашатыру браць лыжку на кварту вады і асьцярожна ўліваць у горла хворай скаціне. Кмін, кроп, румянак трэба спарыць у вадзе, перацадзіць, астудзіць і талы можна ўліць ад двух да чатырох бутэляк. Вапну трэба распусьціць у вадзе і таксама ўліваць патрохі ў горла. Іншых лякарстваў, апроч раеных вэтэрынарным доктарам, лепш ня ўжываць, бо няўмелае іх ужываньне можа толькі хваробе пашкодзіць.

Ня гледзячы на дачу ўнутраных лякарстваў, заўсёды карысна ўздутай жывёле заламыць у горла вудзілы з тоўстага пярэвясла саломы, абмазанага бярозавым дзёгцем, хрыбеціну абліваць халоднай вадой і цёрці яе і бакі каровы пучком саломы, паціскаць левую пахвіну, пацягваць асьцярожна скаціну за язык. Гэта ўсё памагае адрыганьню газу.

Але бывае часта, што мы тут раім, не памагае. Тады трэба ўжываць прабіваньне трыбуха *троакарам* (трыкацінкам). Гэта невялікі круглы цьвек, уложаны ў тоненькую медную трубку. Гэтакі троакар так карысны і танна каштуе, што аж дзіва, чаму гэта па вёсках гаспадары так рэдка маюць яго. 3—5 гаспадаром купіць гэту прыладу, дык ім абышлося-бы па якому-небудзь залатому на кожнага, а ён часта мог-бы адратаваць хворую жывёлу ад сьмерці. Гэту прыладу можна зрабіць спрытны сьлёсар у вёсцы сам. Пільнуйце тут, каб трубка была добра выгладжана і каб шчыльна прыставала да вострага канца швайкі.

Каб прабіць гэтай прыладай трыбух скаціны, швайку ўганяюць у левы бок так, каб яна, быццам, меласе выйсьці з правага боку за пярэдняй лапаткай.

Калі троакар загнаны, трубку прытрымліваюць аднэй рукой, а другой выцягваюць швайку. Трубка, значыць, астаецца ў баку хворай жывёлы і цераз яе выходзіць газ. Яе трэба часта чысьціць дубчыкам, каб не загразла ад корму.

Ня маючы троакару можна ўжываць шылаваты нож, які ўганяюць на 3 цалі. Ножык у дзюрцы пакручваецца, каб лягчэй праходзіў дух, але вынімаць яго ня трэба. Замест ножыка, можна ўставіць якую-небудзь дудачку ў зробленую нажом дзюрку.

Троакар і ножык мусяць быць чыстыя. Перад ужываньнем іх трэба вымыць вадой з мылам ці з содай, спаласкаць гатаванай вадой, з мылам ці з содай, і абмыць карболавай вадой. Толькі тады інструмант не заразіць раны.

Ня трэба палохацца раны, бо яна хутка загоіцца без усялякіх лекаў. Добра потым дзюрку заклеіць смалой або воскам і даваць жывёле праз некалькі дзён такую пашу, ад якой скаціну ня ўздувае. З. П.

## Гутарка аб нашых садох.

Кліматычныя і глебавыя ўмовы на Беларусі добра надаюцца для садаводзтва. Калі нашы сады на вёсках сягоньня даюць малы прыбытак гаспадару, дык вінаваты тут сам гаспадар, вінаваты нашы бацькі і дзяды, якія пакінулі нам свае садкі ў неадпаведным стане. Галоўным недастаткам старых садоў ёсць густая пасадка дрэваў, ад чаго яны адно другое глушаць і перашкаджае дрэва дрэву ў росьце.

Вось цяпер, калі наша вёска шмат дзе рассяляецца на хутары, на якіх паступова заводзіць сады, мы лічым сваячасным даць некаторыя практычныя парады, каб наперад усунуць тыя заганы, якія мы бачым у старых садох.

Садзіць пладовыя дрэвы можна і вясной і ўвосень. Кожнаму, хто зьбіраецца закладваць сад, трэба зьвярнуць увагу на выбар адпаведных мясцоваму грунту і клімату сартоў дрэваў.

Падкрэсьліваецца, што справа выбару адпаведных адменаў ёсьць найгалаўнейшаю і, калі гаспадар, закладываючы сабе садок, выбярэ ня тое, што падыходзіць да кліматычных і грунтовых умоваў — ён толькі сабе пашкодзіць. У гэтай справе заўсёды трэба зьвяртацца за парадай да агранома, да сьвядомага садавода ці ў садоўніцкую ўстанову.

Потым кожнаму гаспадару трэба помніць, што для прамысловага саду лепш браць мала адменаў, бо чым больш аднасартовага тавару, тым большую цану дадуць купцы. Калі садок не вялікі, дык лепш завясьці 2—3 сарты зімовых яблыкаў і грушаў. Зімовыя сарты могуць больш часу пераховывацца і дачакаць лепшай цаны.

Але, закладываючы прамысловы садок, гаспадар мусіць пасадзіць некалькі дрэваў і для ўласнага ўжытку, як летніх, гэтак і васеньніх сартоў.

Калісьці нашы дзяды прытрымліваліся звычаю садзіць дрэвы вельмі густа, але цяпер даведзена практыкай, што густая пасадка шкодна для росту пладовых дрэваў. За якіх 15—20 гадоў, ці якраз, як дрэва пачынае пладзіць, яны разрастаюцца і пачынаюць душыць адно другое, ад чаго ніводнае ня можа нармальна разьвівацца. Практыка ўсталіла такія адлегласьці для пладовых дрэваў: для звычайных (не карлікавых) яблынаў і грушаў—павінна давацца ня менш 8 мэтр. (12 ар. $\times$ 12 арш.), г. ё. дрэва ад дрэва ў радку ўва ўсіх напрамках павінна быць на адлегласьці 8 мэтраў.

Кожнаму гаспадару, які мае замер закладаць сад, перш за ўсё трэба зрабіць разьбіўку, ці намеціць месцы, дзе будуць пасаджаны дрэвы і загадзя выкапаць ямы.

Разьбіўка робіцца так: перш за ўсё намячаюць першы рад і на адлегласьці 8 мэтраў забіваюцца калочкі. Калі першы рад гатоў, тады бярэцца шнур даўжынёй 16 мэтраў, дзьве асобы бяруць за яго канцы і стаяць каля першага калочка і другога, трымаючы канцы шнура каля самых калочкаў. У гэты час трэці чалавек нацягвае шнур і акуратна ўбівае калочак пасярэдзіне (сярэдзіну шнура трэба адзначыць наперад). Потым той чалавек, што стаяў каля першага калочка, пераходзіць да трэцяга, а другі стаіць на сваім месцы, а трэці ізноў нацягвае шнур і на сярэдзіне яго забівае калочак.

Такім спосабам можна разьбіць плошчу ў некалькі дзесяцін. Пасьля разьбіўкі трэба спраўдзіць, каб усе калочкі давалі роўныя лініі на ўсе бакі.

Гэты спосаб разьбіўкі завецца **шахаўніцай.** Пры разьбіўцы шахаўніцай (8 мэтраў дрэва ад дрэва) на адным гэктары можа зьмясьціцца прыблізна 160 дрэваў (у залежнасьці ад формы месца пад сад).

Пасьля разьбіўкі трэба выкапаць ямы пад дрэвы. Тут трэба помніць правіла, што для вясновай пасадкі дрэў ямы павінны быць выкапаны з восені, а для васеньняй — з вясны.

Глыбіня ям залежыць ад грунту. У сярэднім гэту глыбіню можна лічыць па 30—35 сантымэтраў. Верхні слой зямлі 15—18 сант. трэба выкінуць на адзін бок, а сподні—на другі.

За 2—3 тыдні да пасадкі дрэваў стаўляюць і забіваюць калкі даўжынёй $1^1/_4$—$1^1/_2$ мэтра. Да гэтых калоў потым прывязваюцца дрэвы.

Расстаўляючы калкі ў ямах трэба спраўджаць, каб на ўсе бакі яны стаялі ў вадну роўную лінію. Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на першыя рады, бо памылка тут у вадзін вяршок дае розьніцу ў астатніх на аршыны і сажні.

Яма засыпаецца сподняй зямлёй на палову сваей глыбіні, а потым наўкола калка насыпаецца зямля стажком (конусам) з такім рахункам, каб верх стажка быў на 8—10 сант. вышэй ад паверхні грунту.

Перад пасадкаю усе сухія карэньчыкі дрэва трэба вострым нажам абрэзаць аж да сьвежага месца.

На нашу думку, дрэўцы з абрэзанымі карэньчыкамі трэба перад пасадкаю паставіць на цэлую ноч у бочку з вадой, ад чаго яны трохі „адыйдуць" і зробяцца больш сьвежымі.

Садзяць дрэвы так: адзін чалавек бярэ дрэва ў рукі і ставіць яго карэньнямі на стажок і распраўляе другой рукой каранькі на стажку. Найважнейшую увагу трэба зварочваць на тое, каб карнявая шыйка была вышэй на 6—8 сант. ад паверхні грунту. У гэты час другі чалавек бярэ на рыдлёўку дробную бяз грудак зямлю і асыпае карэньні так, каб усе парожнія месцы паміж каранямі былі запоўнены зямлёй.

Калі ўсе карані будуць пакрыты зямлёй, дык тады ўжо можна і прытаптаць зямлю нагамі. Пасьля насыпаецца зямля наўкола дрэва так, каб тут, у часе паліўкі, вада не сьцякала са стажка. Калі дрэва садзіцца вясной, дык зараз-жа пасьля пасадкі пад кожнае дрэва льлюць 2—3 вядры вады. Дрэва, пасаджанае вясной, абрэзваецца цяпер, а пасаджанае ў восень — вясной.

Абразаючы дрэва, трэба зьвярнуць увагу, як абрэзаны і разьвіты былі карэньні. Чым менш яны разьвіты, ці больш абцяты, тым менш трэба пакідаць галінак на дрэве.

Цераз 2—3 тыдні, як зямля трохі абсядзе і карнявая шыйка прыйме нармальны стан, гэта знача, на роўні з паверхняй зямлі, дрэва трэба прывязаць да калка матузком або лычкам, пры гэтым прыцягваць да калка туга ня трэба.

М. Н.

# Выпіска з правілаў аб вясковай будоўлі.

У нумары 25 „Dziennikи Ustaw" ад 5 красавіка г. г. абвешчана новая устава аб будоўлі на вёсцы, маючая моц на ўвесь край Польскае Дзяржавы. Гэта устава зьмяняе ўсе істнуючыя да гэтага часу правілы аб будоўлі на вёсцы. Вось важнейшыя правілы ўставы ў скарочаньні.

*Адлегласьць паміж будынкамі і ад дарогі.*

У мясцовасьцях, ня маючых будаўляных плянаў, (а да гэтакіх амаль ня кожная вёска ў нас належыць) новыя будынкі могуць быць пастаўлены ў адлегласьці ня меншай, як 3,5 мэтра ад публічнай дарогі, а плот (ogrodzenie) ня менш 3/4 мэтра, а калі дарога праведзена на прылеглых грунтах, дык гэта адлегласьць павінна быць ня менш 2 мэтраў ад берагу дарогі, пры гэтым абшар паміж будынкам і дарогай можа быць ужыты толькі для палісадніку (ogródka).

Адлегласць будынкаў ад граніцы суседа павінна быць ня менш:

а) неагняўпорныя будынкі—6 мэтраў;

б) агняўпорныя будынкі, маючыя дзьверы з боку граніцы для памешканьня людзей—4 мэтры; будынкі агняўпорныя, але ня маючыя дзьвярэй з боку граніцы—3 мэтры.

У разе закладаньня новых сядзіб адлегласьць усялякіх агняўпорных крытых будынкаў ад граніц суседа, або ад сярэдзіны дарогі, павінна вынасіць ня менш 15 мэтраў.

Зазначыць трэба, што за агняўпорныя будынкі лічаць тыя, у якіх і сьцены і стрэхі збудаваны з незгараемага матэр'ялу.

Найлепшая адлегласьць паміж звычайнымі неагняўпорнымі будынкамі, або апошніх ад агняўпорных, павінна быць ня меней 12, а будынкаў адкрытых, ня маючых сьцен і назначаных для перахоўваньня сена, саломы і іншых лёгказапальных матэр'ялаў—30 мэтраў.

Неагняўпорныя будынкі, як кузьні, лазьні, вандлярні і інш., па уставе трэба ставіць ня менш 30 мэтраў як ад граніцы суседа, так і ад усялякіх будынкаў.

Ваявода па пастанове wydziału powiatowego можа забараніць крыць будынкі неагняўпорным матэр'ялам (як салома).

Пакрываньне і рамонт стрэх у будынкаў павярховых (больш як адзін паверх—этаж) неагняўпорным матэр'ялам забаронены.

Таксама забаронены рамонты стрэх (pokrycia) неагняўпорных матэр'ялам неагняўпорным у наступных выпадках:

а) калі істнуючыя будынкі знаходзяцца ў тых гмінах, дзе крыць стрэхі неагняўпорным матэр,ялам забаронена,

б) калі будынкі знаходзяцца бліжэй ад граніцы суседа ці іншых будынкаў у адлегласьці меншай, чым гэта прадбачана нават уставай аб будоўлі.

*Фундамэнты.* Усе будынкі з агняўпорнага матэр'ялу павінны ставіцца на фундамэнтах, пры чым яны павінны мець на вышыні 20 сант. ніжэй падлогі ізаляцыі з папы (картону) і смалы, для захаваньня будынку ад грунтовай вільгаці.

*Печы і коміны.* Драўляная падлога каля дзьверцаў печы мусіць быць пакрыта бляхай ня менш, як плошчай 40×50 сант.

Найлепшая адлегласьць печаў ад дрыўляных частак будынку (сьцены, перагародкі) павінна быць:

а) пры печах з цэглы ці кафлі 15 сант. ад атынкаваных сьцен і 25 сант. ад неатынкаваных;

б) пры печах з жалеза—ад сьцен і столі атынкаваных 25 сант. і неатынкаваных—50 сан.

Таксама гэта адлегласць мусіць быць і для труб, злучаючых печ з комінам.

*Жылыя будынкі.* Вышыня жылога памешканьня, лічачы ад падлогі да маціцы (belki stropowej) павінна раўняцца ня менш, як 2,5 мэтра. Вокны жылых будынкаў павінны быць з люфцікамі для праветрываньня памешканьня. Паверхня вакон павінна быць ня менш 1/10 часткі паверхні падлогі. Падлога павінна быць падложана ня ніжэй, як 40 сант. над акружаючым будынак грунтам.

*Студні, „устэнпы" і гнаёўкі.* Адлегласьць студні ад граніцы суседа па новай уставе мусіць вынасіць ня менш 5 мэтраў, а ад будынкаў з нячыстотамі, як хлявы і іншыя—10 мэтраў.

Студні для супольнага карыстаньня з суседам могуць быць выкапаны на граніцы супольнікаў. Студні мусяць быць забяспечаны ад забруджваньня.

„Устэнпы" і гнаёўкі мусяць быць збудаваны ня бліжэй 10 мэтраў ад студні, 2 мэтраў ад граніцы суседа і 5 мэтраў ад публічных дарог.

Выкіданьне нячыстотаў на дарогі ці ў равы бязумоўна забаронена.

*Дазвол на будову.* На будоўлю, перабудоўлю і зьмену павярховых (этажных жылых будынкаў) выдае дазвол гміна, якая мае надзор за ўсімі будынкамі, якія знаходзяцца на абшары гміны.

(Паводле „Rolnika").

# Закон аб павятовым самаурадзе.

**Распараджэньне Генеральнага Камісара Усходніх Зямель, як устаў аб павятовым самаўрадзе.**
(Dz. U. Z. W. Nr. 90 poz. 1284).

(*Канчатак. Гл. № 1, 2, 4, 5 і 6 „Бел. Радны"*).

## РАЗЬДЗЕЛ VI.

### Аб урадавай мове і урадавым паглядзе над павятовымі самаурадавымі хаурусамі.

§ 83. Кожны павятовы самаўрадавы хаўрус камунікуецца з урадавымі ворганамі у польскай мове.

Па за гэтым, у межах дзеяльнасьці павятовых самаўрадавых хаўрусаў, краёвыя мовы з'яўляюцца роўнапраўнымі.

§ 84. Нагляд над дзеяльнасьцю павят. самаўрадавых хаўрусаў выконваюць — у першай інстанцыі (Начальнікі належных акругаў) Ваяводы, у другой і апошняй — (Генер. Камісар Усходн. Земляў) Міністар Унутран. Справаў.

Жалабы на першую інстанцыю ў інстанцыю другую павінны падавацца ў працягу 2-х тыдняў ад дня атрыманьня пастановы інстанцыі першай.

§ 85. Зацьверджаньне наглядная улады I-ай інстанцыі патрабуе пастановы Павятовага Соймiку, датыкаючыся справаў, памянёных у п. п. 4, 6 і 11 § 20, ў § 50, 63, а такжа у п. п. 1—10 § 65, як роўным чынам справаў, датыкаючых падпісаньня дагавораў на час ад 6 да 12 гадоў.

§ 86. Зацьверджаньні (Генер. Каміс. Усх. Зем.) Міністра Унутр. Справаў патрабуюць пастановы Павятовага Соймiку датыкаючыя справаў, памянёных у п. п. 3 і 14 § 20, у § 21, устанаўленьня і зьмены падаткаў, не пералічаных у п. п. 1—10 § 65, спэцыяльных аплатаў (§ 64), а такжа падпісаньня дагавораў з тэрмінам, больш 12 гадоў.

§ 87. Усе пастановы, дзеля правамоцнасьці якіх ;канешне патрэбным ёсьць зацьверджаньне наглядная улады, павінны быць гэтай уладзе пасланы павятовым аддзелам разам з апініяй старасты ў працягу 7 дзён пасьля іх прыняцьця.

§ 88. Няважнымі зьяўляюцца пастановы органаў павятовага самаўрадавага хаўрусу, якія:

1) прыняты былі на неправамоцных паседжаньнях;

2) выходзяць па-за межы компэтэнцыі данага органу;

3) нарушаюць абавязуючыя законы і распараджэньні урадавых уладаў.

Аб няважнасьці рашае і аб'яўляе наглядная улада.

§ 89. Унявазьчнымі могуць быць пастановы Соймiку і павятовага аддзелу, прынятыя ў прысутнасьці асобаў, якія згодна з § 31 павінны быць адсунуты ад нарадаў і галасаваньня.

Аб уняважненьні пастановы рашае наглядная улада на прапазыку зацікаўленай асобы альбо установы.

§ 90. Пастановы павятовага Соймiку, патрабуючыя зацьверджаньня наглядная улады, выконваюцца, калі гэта ўлада не адмовіць зацьверджаньня ў працягу 15 дзён ад дня атрыманьня зьместу гэтых пастановаў.

Іншыя пастановы могуць быць выканаы ураз-жа пасьля іх прыняцьця.

§ 91. Калі павятовы Соймiк ня ўносіць у бюджэт, або не установіць па за бюджэтам выдатку, які павятовы самаўрадавы хаўрус павінен пакрыць згодна з істнуючымі законамі і распараджэньнямі, дык гэта робіць наглядная ўлада I-ай інстанцыі.

§ 92. Калі павятовы самаўрадавы хаўрус ня выконвае сваіх абавязкаў у межах бюджэту або выконвае іх неадпаведна, наглядная ўлада I-й інстанцыі робіць на кошт павятовага самаўрадавага хаўрусу патрэбныя загады дзеля належнага выкананьня бюджэту, пры чым яна (наглядная улада) мае права выдаваць пісаныя правілы адносна крыніцаў, з якіх павінны быць пакрыты адносныя грашовыя патрэбы.

§ 93. (Генер. Кам. Усх. Зем.) Міністар Унутр. Справаў мае права распусьціць Соймiк і павятовы аддзел. У працягу чатырох тыдняў ад дня роспуску Соймiку або аддзелу — павінны быць загаданы новыя выбары.

Выбраныя да новага Соймiку сябры выбіраюць новы Аддзел павят., а да часу распачацьця ім свае працы, бягучыя чыннасьці ў межах компэтэнцыі Соймiку і Павят. Аддзелу выконваюць вызначаныя (Генер. Каміс. Усх. Зем.) Міністрам Унутр. Справаў сябры Аддзелу, якія аднак ні ў якім выпадку ня могуць ані збываць,—набываць, замяняць або закладваць нярухомую маемасьць Павят. Самаўрад. хаўрусу, ані рабіць даўгоў.

§ 94. Наглядныя Улады маюць права асабіста, або праз дэлегатаў рабіць рэвізію павятовай гаспадаркі. Ворганы павятовага Самаўрадавага хаўрусу пры гэтым абавязаны аказваць ім усялякую дапамогу, прадстаўляць кнігі і дакумэнты, выясьняць справы, дапушчаць да рэвізыі кас і падпарадкоўвацца пададзеным імі інструкцыям.

## РАЗЬДЗЕЛ VII.

### Канчатковыя пастановы.

§ 95. Гэтае распараджэньне абявязуець у паветах, паказаных у далучаным сьпіску (гл. у канцы), а такжа тых, на якія абавязуючая моц яго будзе расцягнена дадатковым загадам.

§ 96. Гэтае распараджэньне ўваходзіць у жыцьцё у кожным паасобным павеце, на які расцягнута яго абавязуючая моц, ад дня 1-га арганізацыйнага паседжаньня Соймiку.

§ 97. Выкананьне гэтага распараджэньня даручаецца шэфу сэкцыі Адміністрацыйнай Камісарыяту Генер. Цывільн. Ураду Усходн. Земляў.

Вільня, дня 4 чэрвеня 1920 г.

Сьпісак паветаў да § 95: Віленскі, Ашмянскі, Сьвянцянскі, Троцкі, Лідзкі, Навагрудзкі, Баранавіцкі, Слуцкі, Ігуменскі, Горадзенскі, Кобрынскі, Пінскі, Пружанскі, Слонімскі, Ваўкавыскі, Мінскі і Брэскі.

## Юрыдычныя парады.

**Запытаньне:** Ці сябра валасной Рады траціць свой мандат, калі больш паўгода таму пераехаў жыць у межы другой гміны і асталяваўся там на стала?

**Адказ:** Траціць, бо закон вымагае, каб сябр гміннай Рады быў сябрам валасной грамады і паміж іншым, пражываў стала ў гміне ня менш 6 месяцаў,

**Запытаньне:** Ці войт мае права трэбаваць, каб валасная стойка прывозіла яго з дому да валаснога ўраду і адвозіла стуль дамоў?

**Адказ:** Мае, бо гэтага патрабуе інтэрас службы.

**Запытаньне:** Ці сэкрэтар (пісар) волосьці мае абавязак езьдзіць разам з войтам для прымусовага спаганяньня падаткаў?

**Адказ:** Закон ускладае абавязак спаганяньня падаткаў на войта—і солтысаў. Аднак войт, як начальнік волосьці і працаўнікоў валасным урадзе, можа карыстацца з дапамогі пісара і ў гэтым выпадку.

## Паведамленьне

Урад Беларускага Студэнскага Саюзу гэтым падаець да ведама зацікаўленых, што дня 22 верасьня г.г. Сэкрэтар'ят Беларускага Студэнскага Саюзу (вул. сьв. Ганны, 2) будзе адчынены што аўторкі і суботы ад гадз. 6 да 7 вечара, куды і просім зьвяртацца за ўсялякімі інформацыямі.

За Старшыню
(-) *Я. Ермаковіч*

Сэкрэтар
(-) *Ст. Станкевіч*

**Баларускі Студэнскі Саюз у Вільні**

у суботу, дня 22 верасьня с. г.— у салі Беларускай Гімназіі (Вострабрамская № 9).

**ЛАДЗІЦЬ ВЕЧАРЫНУ.**

У праграму вечарыны ўходзяць:
**а) Тэатральнае прадстаўленьне — СУРДУТ і СЯРМЯГА,**
драмат. абраз з песьнямі і танцамі ў 3-х актах
**б) дэклямацыі, в) хор і г) сконі да раніцы.**
**Пачатак а гадз. 8-ай вечарам.**
Даход пойдзе на карысьць Студ. Саюзу.





Рэдактар-Выдавец Т. ВЕРНІКОЎСКІ. Бел. Друкарня ім. Фр. Скарыны—Вільня, Людвісарская 1